№ 2 — ЛІСТАПАД 1947 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ведай, верай, надзеяй і любою да лепшае будучыні.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 30 фр.

Адрыс радакцыі:
Adresse : Redaction, 35, rue de Sèvres, Paris (6).

Падпісная цана на год 300 фр.

# Значэньне рэлігіі

Сучасная культура і цывілізацыя ў шмат якіх напрамках парабіла такія вялікія поступы і асягненьні, што мае поўнае права ганарыцца імі. Людзі навучыліся будаваць хуткія цягнікі, самаходы, самалёты, радыёстанцыі і радыёапараты хмарадзёры, ўсялякія машыны ды апараты, апошнім часам нават дадумаліся разьбіць атом і дабыць адтуль страшэнную сілу, але поруч з гэтым усім да гэтага часу людзі не навучыліся жыць палюдзку. Наадварот, выглядае так, што быццам чалавек у сваёй дасканаласьці зрабіў паважны крок назад. Войны з незапамятных часоў суправаджаюць жыцьцё чалавека, але апошнія сусьветныя войны, адна горшая за другую, да тае меры ўстрасьлі сьветам, што пакінулі па сабе ў грузах і папялішчах краі, народы і цэлыя дзяржавы. Адначасна руйнуюцца выдатныя памяткі культуры, над якімі працавалі цэлыя пакаленьні, што ператрывалі даўнейшыя самыя лютыя войны, руйнуюцца і асягненьні самае культуры.

Усё гэта, ясна, сьведчыць, аб тым, што ў разьвіцьці сучаснае культуры і цывілізацыі нечага не стае.

Узіраючыся на руіны збамбардаваных гарадоў і спаленых вёсак, міжвольна ўспамінаецца прыповесьць Хрыста: «Хто слухае словы мае і не спаўняе іх падобны неразумнаму чалавеку, які збудаваў свой дом на пяску, і калі навальніцы, паводкі і вятры наляглі на той дом, дык ён заваліўся, і руіна яго была вялікая.» (Мат. 7, 26-27).

Эўрапэйская культура прошлага стагодзьдзя і на пачатку гэтага стагодзьдзя грунтавалася на матэрыялістычных асновах; мела выразны бязбожніцкі нахіл, значыць у сваіх асновах ня мела скалы веры, але пясок розных хісткіх тэорыяў, што зьмяняліся пад уплывам моды то ў адзін то ў другі бок, і дзеля гэтага ўканцы спаткала яе доля прадсказаная Хрыстом — вялікая руіна. Гэтая руіна, ясна, відаць і у самай натуры сучаснага чалавека; войны становяцца што раз больш жорсткія, больш лютыя, так, што аб зьвярынай дзікасьці ўжо няма чаго і гутарыць — яе даўно перавысілі, як гэта яшчэ калісь вельмі дарэчы заўважыў наш вялікі краян, сусьветнае славы пісьменьнік Дастаеўскі. Відаць, што духовае жыцьцё ў аграмаднай бальшыні сучасных людзей страшэнна зьвіхненае, або і зусім адсутнічае.

Кожны адчувае, што адносіны між людзьмі павінны зьмяніцца, бо далей так жыць, як дагэтуль, вельмі цяжка, або лепш кажучы, немагчыма, бо пагражае поўная катастрофа. Сучаснае палажэньне ў шмат чым упадобніваецца да цеснае вясковае хаты, у якой адбываецца вечарынка. Людзей напхалася поўна хата, але дзьверы і вокны зачынены як найбольш шчыльна. Грае скрыпка і гармонік, б'е бубен, моладзь скача, старшыя па кутках гамоняць. Паветра стае што раз цяжэйшае, урэшце лямпа зачынае гаснуць і дыхаць няма чым — людзі пачынаюць душыцца. Урэшце недзе з кутка чуецца голас: «Адчынеце дзьверы, упусьцеце сьвежага паветра».

Падобна і ў сучасным грамадзтве задыхаюцца людзі ў здушаным паветры недарэчных тэорыяў і гэтая атмасфэра да тае ступені сапсаваная, што

кожны адчувае патрэбу зьмены на лепшае. Гэтая зьмена можа стацца толькі тады, калі будуць аздароўлены ўзаемаадносіны між людзьмі. І ня толькі між тымі людзьмі, што займаюць кіруючыя становішчы, але агулам між усімі. Аздараўленьне павінна аперціся не на прамінаючых і няпэўных каркаломных тэорыях, але на вечных праўдах, якімі ёсьць адзінока праўды Божыя — гэта вечна сьвежае паветра для душы чалавека. Толькі Бог можа сказаць: «Неба і зямля прамінуць, а словы мае не прамінуць» (Мат. 24, 35). Сама гэткіх праўдаў і гэткіх словаў патрэба сёньня, бо акрамя штодзенных турботаў грамадзкія няшчасьці і заўсёдная няпэўнасьць страшэнна зьнемаглі людзкасьць. Збалелая душа ўсёю сваею істотаю імкнецца туды, дзе чуваць шчыры кліч: «Прыйдзеце да мяне ўсе працуючыя і абцяжаныя і Я супакою вас» (Мат. 11, 28).

Матэрыялістычныя тэорыі грамадзкага ладу так-жа мелі на ўвеце заспакоіць усе жаданьні чалавека і тым самым ашчасьлівіць яго, але на практыцы гэта выглядала так, што стараліся задаволіць толькі змысловую частку, аб патрэбах душы нават і гаварыць не хацелі. Для іх увесь чалавек быў — жывот і змыслы; толькі іх стараліся заспакоіць усёроўна ці чэсным ці хоць-бы самым нячэсным спосабам. Запраўды шукалі ўсяго акрамя Божае праўды. Словам зусім супроць таго, што гаварыў Хрыстос: «шукайце перш Царства Божага і праўды яго, а ўсё іншае прылажыцца вам» (Мат. 6. 33).

Людзі саманадзейна адкінулі тое самае галоўнае, тое шчасьце ў небе, адкінулі і Божую праўду, шукалі шчасьця на зямлі і зямнога раю, надумаліся збудаваць жыцьцё паводле ўласнае фантазіі не зважаючы на ніякія вышэйшыя правы, пазачынялі вушы і пазаплюшчвалі вочы, каб ня чуць голасу Божага і так замкнутыя ў сабе душыліся, як на той вясковай вечарыне ў шчыльназамкнёнай хаце — сумныя вынікі гэтага балюча адчуваюцца на кожным кроку. Ужо сёньня бясспрэчна адчуваецца ўсюды неабходная патрэба аздараўленьня грамадзкага і асабістага жыцьця, але яшчэ шмат хто пытаецца за паэтам:

Куды ісьці, каму маліцца?
Якім багом паклоны біць? (Я. Купала — «Прыстаў я жыць»).

На гэта можна і трэба адказаць: Есьць адзін вечны шлях, шлях Праўды, яго трэба пазнаць і па ім ісьці. Есьць адзін праўдзівы Бог, яму трэба маліцца і біць паклоны. Толькі на гэтым шляху льга знайсьці запраўдныя маральныя асновы асабістага і грамадзкага жыцьця, аб гэтым шляху і аб гэтым Богу і яго праўдзе навучае рэлігія, таму пазнаць рэлігію і практыкаваць яе ў штодзенным жыцьці зьяўляецца не малаважнаю справаю, але найважнейшаю жыцьцёваю справаю кожнага чалавека паасобку і ўсіх разам. На вялікі жаль сеньня так, як і даўней, людзі ўважней слухаюць рознае благоцьце чым паважныя справы. З найвыдатнейшым прамоўцам усіх часоў Дэмостэнам быў такі выпадак. Аднойчы ён гаварыў на вялікім зборы аб ратунку бацькаўшчыны; не зважаючы на энтузьязм прамоўцы шмат хто з слухачоў пазяхаў, а некаторыя гутарылі між сабою. Бачучы гэта прамоўца раптам зьмяніў тэму гутаркі і пачаў апавядаць байку аб цені асла — адразу ўсе пачалі слухаць гэтае брэдні з вялікаю ўвагаю.

Няма ведама на колькі сучаснае людзтва паслухае тых людзей, якім даручыла долю ўсяго свайго існаваньня. Маршал Монгомэры ў травені 1947 г. візытучы абток Джэрсэй зьвярнуўся да моладзі з прамоваю, у якой з асаблівым націскам сказаў: «Я ёсьць таго пагляду, што нацыя, якая занядбае духова сваю моладзь, ніколі не асягне якогась трывалага выніку. Дзеля гэтага неабходна дбаць, каб моладзь здабыла зразуменьне рэлігійных праўдаў».

Гэта голас ня толькі маршала, але голас крыві тых дзясяткаў мільёнаў людзей, што загінулі ў гэтай вайне, голас мільёнаў удоваў і сіротаў, голас руінаў тысячаў гарадоў і соцен тысяч вёсак. А сэнс яго — нам трэба Бог і Яго Праўда!!!

Толькі тады перастане «плакаць душа і рвацца грудзі», тады разьвеюцца цяжкія хмары прыгнобленьня, калі з найглыбейшым перакананьнем усе грамадою паўторым за паэтам:

О, Божа праведы, магутны
Дай рэштکі сіл сваім аддаць,
І не зрабіўшы брату злога,
Пад крыжам бацькавым сканаць. (Я. Купала, там-жа).

# Беларуская народная мудрасьць аб Богу

Глыбокая і непахісная рэлігійная вера Беларускага Народу зьяўляецца істотнаю азнакаю беларускага народнага духа. Калі сёньня ўвесь сьвет, а разам з ім і мы перажываем цяжкі пераламовы час і толькі цьмяна дагадваемся аб магчымых заўтрашніх зьменах, дык за тое мусім сабе ясна ўсьведаміць, дзе была тая жыцьцядайная крыніца моцы, якая давала сілы беларускім народным масам, перанесьці самыя цяжкія і жахлівыя жыцьцёвыя абставіны і не заламацца, ані не пахіснуцца, каб ведаць у якім напрамку павінна разьвівацца наша заўтрашняе жыцьцё.

Усе свае жыцьцёвыя дазнаньні і перакананьні ад найдаўнейшых часоў народ захоўваў у вуснай творчасьці. Найбольшыя скарбы беларускае народнае мудрасьці захаваны ў прыказках і пагаворках, таму на гэтым мейсцы і прыглянемся да іх уважней. Аб тым з якою пашанаю і павагаю адносіцца народ да прыказак, сьведчыць факт, што сёньня захаваліся яшчэ прыказкі з дахрысьціянскіх часоў, напр.:

Які бог памачыў, такі і высушыць.

Пакланіся кусту — дасьць табе хлеба лусту.

Сказуў-бы, але печ у хаце.

Як сьвет сьветам, як Бог Богам — такога ня было, і т. п.

Ніколі ў народзе не бракавала такіх адзінак, што свае нячэсныя, а нават і паганыя ўчынкі стараліся прыкрыць аўтарытэтам Бога; вось-жа ўсякае гэткае пустамельства народ востра асуджаў і высьмяваў:

Дзякуй Богу за Бога, што Бог даў Бога.

Трэба аднак засьцерагчыся, што рэлігійнасьць народу не заўсёды была аднолькавая, бо:

Як трывога, дык да Бога, а як па трывозе дык і па Бозе.

Так-жа ня ўсе грамадзкія клясы аднолькава былі набожныя, бо:

Бедны Бога памятае, а багаты ўсіх забывае.

Але на пачатку спытайма, як народ уяўляў сабе Бога? Бо:

Які Бог, такая і вера.

**Вось-жа** народ ясна сабе ўяўляе, што:

**Бог усё** бачыць.

**Ад Бога не** схаваешся.

Калі і сустракаюцца антрапамарфізмы:

Каб тваё слова ды Богу ў вуха.

Папаў Богу ў вакно.

Дык гэта хутчэй вобразнае выказваньне Божых якасьцяў, як усюдыпрысутнасьці і ўсемагутнасьці. Асабліва ясна і цьвёрда выказваецца ў прыказках, што Бог ёсьць абсалютным гаспадаром усяго сусьвету пад кожным узглядам:

Як Бог сьвет тварыў, дык цябе розуму ня пытаў.

У Бога ўсё напагатове.

Мы так, а Бог інак.

Ня строй жарцікаў — Бога не ашукаеш.

Хто арэ, хто барануе, усё Бог параўнуе.

Але што найважнейшае для людзей, дык гэта тое, што Бог заўсёды і ўсюды апякуецца людзкою доляю і памятае аб усіх. Гэта наймацнейшае жарало сілы і надзеі, бо:

Кожны аб сабе, а Бог аб усіх.

Дасьць Бог дзень, дасьць і пажыву.

Дасьць Бог дзеці, дасьць на дзеці.

Над сіратою Бог з калітою.

Сьцеражонага і Бог сьцеражэ.

Бяз Бога ні да парога, а з Богам хоць за мора.

Свае просьбы да Бога народ так-жа часта выказвае ў форме прыказак:

Дай Божа ўсё умець, але ня ўсё рабіць.

Дай Божа, каб было гожа.

Дай Божа заўсёды сьмяяцца, а ніколі ня плакаць.

Але не да ўсіх людзей Бог адносіцца аднолькава, бо:

Хто з Богам, то й Бог зь ім.

Бог не цяля — пазнае круцяля.

Бог лесу не параўнаваў, так і людзей не раўнуе.

Тым ня менш Бог кожнага чалавека абдарыў усім патрэбным да жыцьця і хоча, каб надзелянымі яму сіламі чалавек карыстаўся ў туземным жыцьці і зусім ня мае на мэце спамагаць гультаёў:

Бог, ды Бог, але й сам ня будзь плох.

Хто рана ўстае, таму й Бог дае.

І запраўды, усякі дабрабыт можа даць толькі Бог:

Калі Бог ня дасьць, то й людзі не памогуць.

У Бога ўсяго многа.

Бог багаты — болей мае як раздаў.

Аднак у кіраваньні сьветам і разьмеркаваньні дастаткамі Бог мае свае пляны, якія трэба прыняць з усім даверам і якіх уцяміць чалавек ня мае сілы.

Бог стары гаспадар.

Бог праўду (ўсё) бачыць, але ня скора скажа.

Бог сіраты любіць, але шчасьця не дае.

За няпаслух Бог часам ужо тут на зямлі можа пакараць:

Каго Бог хоча пакараць, дык таму розум адымае.

На каго Бог, на таго й людзі.

Богу ад людзей належыцца адпаведная пашана і то пашана не якая небудзь, але дакладна азначаная, бо:

Пакуль я плакаў, быў Бог аднакаў, як стаў сьпяваць, стаў Бог даваць.

Бога хвалі і чорта не квялі.

Бога бойся, гасьцей шануй.

Форма пашаны можа быць розная, бо:

Усяк па свойму Бога хваліць.

Калі плачу Бог ня выслухоўвае, дык тым больш ня выслухоўвае сварлівых пракляцьцяў. Ніводная сварка разззлаваных жанок не абыдзецца бяз заклікаў да «літасьцівага і міласэрнага Бога», каб Той у найгоршы спосаб пакараў яе супярэчніцу. Але гэтыя заклікі так і астаюцца ня выслуханымі і цешыцца з гэтага шчырае народнае сэрца:

Ня даў Бог сьвіні рог, а то ўвесь сьвет перавярнула-б.

Смачны жабе гарэх, ды зубоў Бог ня даў.

Дзеля гэтых самых прычынаў жадае:

Ня дай Бог з Івана пана.

Трымаючыся правіла, што сьмех ня грэх, розныя жартаблівыя заўвагі да сваіх бліжніх спалучаныя з заклікам да Бога:

Ад Бога грэх, а ад людзей сьмех.
Дай Божа нашаму цяляці воўка зьесьці.
Даў Бог цяля, ды няма хлява.
Ні Богу сьвечка, ні чорту качарга.
Усадзіў Бог душу, ні ў пень, ні ў грушу.

Неадпаведнае захаваньне Божых прыказаньняў Беларус выказвае шчыра, быццам апраўдваючыся:

Бог даў сьвята, а чорт работу.

За тое востра асуджаецца ўсякая няшчырасьць супроць Бога:

На табе, Божа, што мне ня гожа.

Калі да ўсяго вышэйсказанага яшчэ дадамо стараветныя беларускія звычаі вітацца, кажучы: «Слава Богу!» і адказ на яго: «Слава на векі!», што яшчэ дагэтуль захаваўся ў некаторых ваколіцах Палесься, а да таго яшчэ прыпомнім, што адпаведна да роду заняцьця пасьля прывітаньня дадавалася: «Прыспарай Божа», «Радзі Божа», «Памагай Бог», «Сыць Божа!», дык будзем мець яшчэ ясьнейшы абраз тых глыбокіх рэлігійных перакананьняў, якімі ў сваім жыцьці кіраваўся наш народ: і гэта ёсьць тая моцная вера, якая падтрымлівала народ на яго жыцьцёвым шляху, які хоць і пакутны, але напэўна вядзе да сьветлае будучыні.

**Л. Хар-ко.**

# Цярпеньне у сьвятле веры

У эміграцыйным жыцьці некаторыя жыцьцёвыя пытаньні стаюць так актуальнымі, што абыйсьці іх маўчаньнем, або адказаць абыяк нас не задавальняе. Адным з такіх пытаньняў бясспрэчна ёсьць справа цярпеньня. Кожны чалавек мае ўроджанае жаданьне шчасьця, задаваленьня і лятуціць аб гэтым ад маленства аж да магілы, ствараючы прыгожыя казкі аб кветцы шчасьця, але адначасна кожны, хто ступіў на зямлю, мусіць даволі напіцца з горкае чашы цярпеньня. Не дарма Зямлю вобразна называюць «далінаю сьлёз».

Цярпеньне не абмінае ніводнае жывое істоты на Зямлі, але найбольш яно даймае разумнае сатварэньне — чалавека. Неразумныя жывёлы могуць мець толькі фізычнае цярпеньне; гэта значыць такое, што яго спрычыняюць змысловыя нэрвы, як боль, голад, холад; а ў чалавека да фізычнага цярпеньня далучаецца яшчэ маральнае, якое часта ў шмат разоў перавышае фізычны боль, напр., утрата каханае асобы ці рэчы, зьдзек, зьняслаўленьне, прыгнобленьне, роспач і т. п. —

Аб фізычным болю - цярпеньні не патрэбна нават шмат гаварыць, каб зразумець, што гэта вялікае дабрадзейства для кожнае жывое істоты, бо яно зьяўляецца трывожным знакам, які асьцерагае перад пагражаючаю небясьпекаю. Каб чалавек не адчуваў болю, дык-бы мог папячы сваё цела ня толькі на агні, а нават гарачаю страваю, да таго ніколі ня мог-бы своечасова заклікаць лекара на пачатку хваробы, памёр-бы з холаду, а нават з голаду, маючы паддастаткам ежы.

Затое пытаньне маральнага цярпеньня ёсьць шмат больш складаным і не заўсёды яго можна, як сьлед, выясьніць. Напрыклад сьвецкая філязофія, не зважаючы на шматлікія стараньні, да гэтага часу не змагла даць здавальняючага выясьненьня, што да гэтага пытаньня. Старэйшыя і навейшыя філёзафы, разважаючы над справаю цярпеньня, даходзілі да самых супроцьлеглых крайнасьцяў; адны казалі, што цярпеньне гэта такое ліха, на якое адзіная рада: даць волю ўсім сваім прыхацям (эпікурэйцы), другія наадварот, радзілі абыякавасьць да ўсяго ў жыцьці і да сваіх пачуваньняў (стоікі), іншыя зноў упадалі ў поўны зьнявер - скептыцызм (Шопэнгаўэр). Толькі хрысьціянская рэлігія дае ясную і для кожнага зразумелую і ўспрыймальную разьвязку гэтага пытаньня, паколькі яго агулам магчыма зразумець.

Выхадным пунктам для разьвязкі пытаньня цярпеньня ёсьць праўда, што Бог ёсьць Любоў і толькі дзякуючы сваёй любові стварыў сьвет, і асабліваю любоўю Бог любіць чалавека, — Ён наш нябесны Айцец, таму ўсё, што нам Бог пасылае, дык гэта выключна для нашага дабра. Магчыма, што, як маленькія дзеці, не заўсёды можам належна зразумець намеры нашага Нябеснага Бацькі і часта з крыкамі лямантам бунтуемся супроць Яго, аднак міма гэтага, мы заўсёды астаёмся Яго дзяцьмі, Ён нашым Бацькам. З Божае волі цярпеньне зьяўляецца магутным дзейнікам у дзеле спасеньня нашае душы, бо праз цярпеньне душа адрываецца ад усяго земскага і накіроўваецца да неба. «Як трывога, дык да Бога», — здаўна вядомая праўда, але ня менш вядома і другая праўда: «Як па трывозе, дык і па Бозе», бо чалавек, стараючыся задаволіць свае штодзенныя змысловыя патрэбы, можа дайсьці да такога стану, што для яго іншыя справы амаль перастаюць існаваць, таму, хоць час ад часу, неабходна для кожнага чалавека нейкі штуршок, што на часінку адрываў-бы ад тых штодзенных змысловых клопатаў і накіроўваў-бы думку ў іншым напрамку. Да гэтага з Божага правіду служыць цярпеньне.

Цярпеньне ня толькі ацьвярожвае чалавека, але яно зьяўляецца збаўчым. Самае выкупленьне людзей ад граха сталася толькі дзякуючы крывавым мукам Хрыста на Крыжы. Але і пасьля адкупленьня людзей ад граха, у целе кожнага чалавека асталіся руйнацкія сьляды першароднага граха, якія залечваюцца так-жа толькі цярпеньнем. У нябеснай аптэцы наймагутнейшым лекам на раны душы ёсьць цярпеньне. Таму кожнаму чалавеку адпаведна да яго патрэбы, даецца, магчымасьць цярпець. Хрыстос аб гэтым выразна кажа: «У цярпеньні вашым ратуйце душы вашы». (Лук. 21,19).

У цярпеньні ўдасканальваюцца ўсе цноты людзкое душы. Як дыямант шліфуецца толькі паціраючы акрушынамі дыяманта, падобна і людзкая душа ўдасканальваецца ў сваім-жа цярпеньні, і ў сьвеце Божае ласкі пачынае зьзяць нябеснаю яснасьцю. Таму некаторыя сьвятыя людзі маліліся: «Госпадзе, дай або цярпець, або памерці!» (сьв. Тэрэса).

Праз цярпеньне душа ня толькі ўдасканальваецца, але адначасна ўзбагачваецца нябесным скарбам. У душы чалавека з цярпеньнем адбываецца нешта падобнае, як з пясчынкаю ў целе жамчужніцы.

Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы
ўпадзе пясчынка хоць адна,
жамчугом патроху робіцца яна.
Калі ў дух мой западзе і заварушыцца
там кавалак грубога жыцьця,
у жамчуг зьвернецца ён сілай пачуцьця.
Максім Багдановіч.

Адгэтуль ясна, што чым хто больш цярпіць, тым больш ён будзе мець заслугаў перад Богам. Для большае заслугі Хрыстос вымагае дабравольна прыняць цярпеньне: «Хто не бярэ крыжа свайго і ня йдзе за Мною, той ня варт Мяне» (Мат. 10. 38). Гэтыя ўсе матывы для шмат каго зьяўляюцца ня толькі выясьняючымі, але падбадзёрваючымі. Калі-б сказаць людзям, што недзе на гары ёсьць дзеравяныя крыжы і кожны можа пайсьці туды выбраць любы крыж і насіць яго, як свой уласны, дык напэўна ня шмат ахвотнікаў знайшлося-б да гэтага. Але калі-б запэўніць людзей, што гэныя крыжы ўнутры напоўненыя золатам, дык кожны сьпяшаў-бы туды чым хутчэй, каб выбраць як найцяжэйшы крыж для сябе. Але перанесеныя дабравольна цярпеньні варты больш, чым усякае золата, бо заслугоўваюць вечнае шчасьце.

У цярпеньні ёсьць адна вельмі характэрная рыса, на якую так-жа варта зьвярнуць увагу. Цярпеньне заўсёды будзе больш даймаючым, чым больш яму нехта супраціўляецца. Ведамы бэльгійскі францішканец а. Валентын Пакуа († 1905) выясьняе гэта так: «Што такое Крыж? Гэта людзкая воля, што йдзе ўпапярок волі Божае. Калі-ж абедзьве волі йдуць побач, дык замест Крыжа маем дзьве раўналеглыя лініі, дзьве чыгуначныя рэйкі, па якіх льга ўздымацца з поўнаю параю».

Каб аднак нехта гэтага дрэнна не зразумеў і не дайшоў да высна́ўку, як калісь Леў Талстой, паставіўшы галоўным клічам свае навукі: «Несупраціўляцца злу», дык неабходна засьцерагчыся, што дабравольнае прыняцьце цярпеньня ня трэба разумець у сэнсе поўнага зрачэньня з барацьбы супроць зла. Наадварот, сам Хрыстос дае ня раз прыклад актыўнае барацьбы супроць зла. Калі гандляры апаганьваюць сьвятыню, Ён з бічом у руках ачышчае яе ад зьнявагі, перакідае сталы мяняйлаў. Да таго ёсьць бясспрэчны факт, што натура чалавека заўсёды ўцякае ад цярпеньня, хоць-бы мы як аб гэтым сябе не пераконвалі і думалі. Сам Хрыстос дае найлепшы прыклад гэтага. Хрыстос на тое прыйшоў на Зямлю, каб праз свае мукі вызваліць людзей ад няволі граха, аднак перад самымі мукамі, абліваючыся крывавым потам, маліўся: «Ойча Мой! калі магчыма, няхай абміне Мяне чаша гэтая». (Мат. 26.39). Але адначасна ў гэтай-жа малітве Хрыста далей знайходзім разьвязку гэтага пытаньня, бо Хрыстос дадае: «Аднак не як я Хачу, але як Ты» (там-жа). Значыць, у кожным горы і няшчасьці, у кожным цярпеньні, мы так-жа маем права прасіць Міласэрнага Бога, каб нас вызваліў ад мукі, але пад умоваю, што канчаткова няхай Яго сьвятая воля станецца, і калі пасьля просьбы Бог помачы не пасылае, дык ясна, што Яго воля нам радзіць перанесьці пасланае цярпеньне.

Прынагадна трэба зьвярнуць увагу на адно пытаньне сьцісла зьвязана з цярпеньнем з якім даволі часта прыходзіцца сустракацца ў штодзенным жыцьці. Некаторыя яўныя злачынцы і публічныя грэшнікі жывуць зусім добра, тады, як пабожныя і чэсныя людзі часта страшэнна гаруюць. Чаму так дзеецца?

Адказваючы на гэтае пытаньне сьвятыя айцы і багасловы зьвяртаюць увагу, што няма на зямлі такіх людзей, якія-б часам, можа нават ня хочучы, не зрабілі чагосьці добрага для іншых. А з другога боку, нават праведныя людзі часам цяжка падаюць. Дык вось справядлівы Бог нават дробныя добрыя ўчынкі розных злачынцаў нагароджвае тут на зямлі ў форме больш менш выгаднага жыцьця, а за іх злачыны рыхтуе ім заслужаную кару ў пекле. Калі чэсны чалавек цярпіць ад розных няшчасьцяў, дык гэта найлепшы знак, што Бог ім апякуецца. Бо кожны бацька апякуецца ў першую чаргу сваімі дзяцьмі, узгадоўвае іх, а калі трэба, дык часам і карае. Калі якое недамаганьне выявіць, дык неадкладна панясе да лекара, а нават і на найцяжэйшую апэрацыю. Чужых-жа стараецца не чапаць. Так сама і Бог адносіцца да людзей, як аб гэтым выразна сьведчыць сьвятое Пісаньне: «Каго Бог любіць — карае; і б'е кожнага сына, якога прымае» (Прып. 3.12 і Апок. 3.19).

Дык няма чаго завідаваць бязбожнаму і нячэснаму, хоць і раскошнаму жыцьцю, бо яно да дабра не давядзе, бо Бог ёсьць справядліві судзьдзя, Які за дабро нагароджвае, а за зло карае. Хрыстос надзвычай прыгожа і ясна навучае аб гэтым у прыповесьці аб багачу і Лазару. Калі гуляшчы багацей па сьмерці апыніўся ў пекле, ды пабачыў у раю Лазара, дык прасіць каплю вады ў яго, але Хрыстос на гэта адказвае: «Сын! прыпомні, што у жыцьцы тваім меў ты добрае, а Лазар благое, цяпер-жа ён тут пацяшаецца, а ты цярпіш вялікія мукі» (Лук. 16, 25).

Гэтая прыповесьць нам дадае сілы і бадзёрасьці йсьці нават самым цярністым жыцьцёвым шляхам, бо гэта ёсьць знак, што па ім Хрыстос вядзе нас да Сябе: «Увайходзьце праз цесныя вароты, бо шырокія вароты і вольны той шлях, што вядзе да загубы, і шмат хто йдзе ім; бо цесныя вароты і вузкі той шлях, што вядзе ў жыцьцё» (Мат. 7.13).

Гэтыя праўды наш народ здавен даўна ўняў у прыгожыя прыказкі: «Хто цярпён, той спасён», Хто не скаштаваў гора на зямлі, той не скаштуе шчасьця ў Небе».

Да ўсяго папярэдняга разважаньня трэба дадаць адну пацяшаючую заўвагу. Цярпеньні, што іх Бог пасылае людзям, найчасьцей ня трываюць доўга. Яны часта маюць характар пробы, як гэта бачым на прыкладзе праведнага Іова. Бог дапусьціў, што праведны Іоў страціў сваё вялікае багацьце, страціў дзяцей, а нават сам у страшнай хваробе быў выкінены за горад, аднак мужна перанёс усе гэтыя мукі і за гэта атрымаў ад Бога ўжо нагароду тут на зямлі, а для нас, дык стаўся запраўдным прыкладам у нашым сучасным палажэньні. Страціўшы нават сваіх найбліжэйшых і Бацькаўшчыну, мы перацерпім, як праведны Іоў, каб падобна да яго атрымаць суцяшэньне. —

**Сьвятар Л.**

# Цуды і навука

Дня 29-га верасьня г.г. Бюро Мэдычных Сьцьверджаньняў у Люрдзе падало да агульнага ведама, што між шматлікімі палепшаньнямі ўстане здароўя хворых, якія ў гэтым годзе наведалі Люрд, ёсьць выпадак, што бесьпярэчна мусіць быць залічаны да надзвычайных. Менавіта васьмігадовы хлапчына Жэрард Б. із Сьв. Поля над Морам, што ад двух з паловай гадоў быў нявідучым дзеля прагрэсыўнае атрофіі вачэй дня 27-га верасьня г.г. падчас працэсіі з Найсьвяцейшай Эўхарыстыяй раптам стаў бачыць і стан яго зору паляпшаецца, хаця паводля сучаснае мэдыцынскае веды хвароба Жэрарда Б. належыць да зусім нявылячальных. Паведамленьне падпісаў Старшыня Бюра Мэдычных Сьцьверджаньняў др. Францішак Лерэ.

Пры гэтай нагодзе міжвольна напрошваецца пытаньне: як агулам сучасная навука адносіцца да цудаў? На гэтае пытаньне найлепш паслухаць адказу сьвецкіх вучоных.

Шырокаведамы др. Карэль Аляксей пасьля доўгіх і дакладных досьледаў сьцьвярджае:

«Ува ўсіх краінах заўсёды верылі ў існаваньне цудаў, у больш або менш раптоўныя аздараўленьні хворых на мейсцы паломніцтва і ў некаторых сьвятынях. Але ў выніку вялікага ўздыму навукі ў 19-м стагодзьдзі гэтая вера зьнікла зусім. Агулам дапушчалася, што ня толькі цуды ня існуюць, але яны нават ня могуць існаваць. Падобна, як права тэрмадынамікі выключае заўсёдны рух, так фізыялягічныя правы супрацiўляюцца цудам. Гэткае становішча яшчэ сёньня займаюць бальшыня фізыялёгаў і мэдыкаў. Тымчасам яго нельга ўтрымаць у абліччы спасьцярогаў, якія мы маем сёньня. Бюро Мэдычных Сьцьверджаньняў у Люрдзе назьбірала найбольш пераконваючых выпадкаў. Наша сучаснае паняцьце пра ўплыў малітвы на паталягічны стан асноўваецца на назіраньні хворых, якія амаль раптоўна былі вылечаны з розных хваробаў, такія як пэрытанічныя сухоты, сухоты касьцей, халодных верадаў, гнойных ранаў,ваўчанкі, рака і т. п. Працэс аздараўленьня мала розьніцца ў аднае асобы ад другое. Часта адчуваецца вялікі боль, потым раптам пачуцьцё поўнага аздараўленьня. За некалькі хвілін, некалькі мінутаў, або найбольш некалькі гадзінаў раны зарубцоўваюцца, зьнікаюць агульныя хвараблівыя сымптомы, вяртаецца апэтыт. Часам функцыянальныя непарадкі зьнікаюць перш чым зьнікнуць анатамічныя пашкоджаньні. Дэфармацыя касьцей у хваробе Пот, ракавістыя вузлы часта яшчэ існуюць два або тры дні пасьля мамэнту аздараўленьня. Цуда характэрызуецца перадусім надзвычайна хуткім працэсам арганічнае адбудовы. Няма сумніву, што ступень рубцаваньня анатамічных пашкоджаньняў шмат больш узьнятая чым нармальная. Адзіная неабходная ўмова для зьявішча цудаў ёсьць малітва. Але не абавязкава, каб хворы сам маліўся, або каб ён меў рэлігійную веру. Выстарчае, каб хто небудзь каля яго маліўся. Гэтыя факты маюць аграмаднае значэньне. Яны паказваюць рэальнасьць пэўных адносінаў яшчэ непазнанае натуры, між псыхалягічнымі і арганічнымі працэсамі. Яны даказваюць об'ектыўную важнасьць

духовае дзейнасьці, якою гігіеністы, лекары, пэдагогі і сацыялісты амаль ніколі ня думалі займацца. Яны нам адчыняюць новы сьвет».

Гэтак пісаў др. Карэль адведаўшы Люрд. Для інфармацыі варта дадаць, што Бюра Мэдычных Сьцьверджаньняў у Люрдзе заложана ў 1882 г. Цяпер у яго склад увайходзяць усе мэдыкі, якія штогод у аграмаднай колькасьці наведваюць Люрд бяз розьніцы іх веравызнаваньня і нацыянальнасьці. З году ў год лік сяброў Бюра ўзрастае. У 1890 г. было 27 лекараў, у 1900 — 210, у 1910 — 478, у 1925 — 621, цяпер — больш тысячы.

За гэты час сьцьверджана ў гадох 1858-1904 каля 3.000 цудаў, у тым ліку 265 нэрвовых, а рэшта ўсё хваробы зусім невылячальныя. У 1933 г. сьцьверджана 88 цудоўных аздараўленьняў.

Які сэнс маюць гэтыя шматлікія цуды? На гэта др. Аўгуст Вале дае такі адказ: «Вера трацішца, вера заміраѐ! Вось-жа Бог прыходзіць з павучаючымі аздараўленьнямі ў Люрдзе і кажа чалавеку: Стрывай, Я ёсьць!»

Вольнадумцы і недаверкі так-жа відаць вельмі ясна адчулі гэты голас, але замест паслухацца яго ў 1906 г. стараліся «зьліквідаваць Люрд». Яны дамагаліся забароны паломніцтваў. Але відаць, што голас Божы ня быў бясьсьледны, бо тады-ж з усіх старон пасыпаліся пратэсты. Характэрыстычны быў пратэст прадстаўнікоў мэдыцыны. 346 лекараў асудзілі праект недаверкаў і заявілі: «З лекарскага абавязку сьцьвярджаем, што раптоўныя аздараўленьні, якія адбываюцца ў Люрд, ёсьць незапярэчным фактам, якога ніякім спосабам нельга выясьніць дзеяньнем прыродных сілаў». Між тымі, што падпісалі гэты пратэст было 42 слаўных інтэрністаў, 14 галоўных лекараў клінікаў і бальніц, 42 хірургаў, 12 прафэсароў мэдыцыны, 3 сябры Мэдычнае Акадэміі.

Найбольшы лік ведамых дагэтуль цудаў належыць да раптоўных аздараўленьняў, але ня менш слаўныя й іншыя цуды. Італійскі горад Нэапаль уславіўся сваімі цудамі сьв. Януарыя. Там ёсьць дзьве маленькія пляшачкі застыўшае крыві гэтага сьвятога мучаніка; яна штогод на некалькі дзён прымае нармальны стан. Навуковым спосабам пры помачы спэктроаналізы сьцьверджана, што гэтая кроў зьяўляецца запраўды людзкаю. Гэты факт мусіў прызнаць нават часапіс ваюючых бязбожнікаў «Атеист» Нр. 2. з 1925 г. б. 87. Затое ніякім навуковым спосабам выясьніць гэтага цуда не ўдалося.

Не ад рэчы будзе ўспомніць, што Божая рука дзеючая цуды праяўляецца нават у самых бязбожных краінах. Для прыкладу ўспомнім выпадак у Івана-Вазьнесенску з бязбожніцкім агітатарам Казловым. Падчас антырэлігійнага дыспуту, выгалошваючы богаабразьлівую прамову Казлоў раптам анямеў так, што ніякія лекарскія стараньні не змаглі яго вылечыць. Гэты выпадак зрабіў аграмаднае ўражаньне на ўсіх і дзеля гэтага т. Казлова хутка выслалі ў іншую мяйсцовасьць, «каб ня муціў галоў сваею асобаю», як аб гэтым пісала савецкая газэта «Правда» ў Нр. 132 з 1923 г.

Добры Бог ніколі не забывае людзей і не пакідае іх без асьцярогі. У розных формах Ён пасылае сваіх вястуноў і стукаецца ў людзкія сэрцы, ды цярпліва чакае, калі выслухаюць Яго голас: «Вось Я стаю пры дзьвярох і стукаюся; калі хто пачуе Мой голас і адчыніць дзьверы, Я ўвайду да яго і буду вячэраць зь ім, дый ён са Мной» (Апок. 3.20).

**а. Леў**

# Пашана беларускага народу да Найсьвяцейшае Дзевы Марыі

Есьць шмат доказаў глыбокае, шчырае і пабожнае пашаны Беларускага Народу да свае Нябеснае Валадаркі — Найсьвяцейшае Дзевы Марыі, але хіба найлепшым вонкавым праявам, гэтага глыбокага і шчырага пачуцьця зьяўляюцца шматлікія славутыя цудатворныя абразы, якія быццам вянком апаясваюць Беларусь на яе ўскраінах і густа раскіданы па большых гарадох і па самых дробных вёсках.

Сёньня, калі ўся Беларусь перажывае цяжкія часы, шмат дзе гэныя мейсцы зруйнаваны дарэшты, можа гэта Божая кара за тое, што няпрошаныя апякуны-суседзі, захапіўшы ўладу над Беларускім Народам, стараліся выкарыстаць гэтыя крыніцы ласкаў на шкоду, а нават на загубу для Народу. Відаць мацярынскае сэрца нашае Нябеснае Валадаркі не змагло абыякава глядзець на гэткае крамольнае надужыцьцё яе сьвятога аўтарытэту. Аднак народ тым ня менш сардэчна шануе сваю Нябесную Валадарку і да Яе зьвяртаецца і будзе зьвяртацца ўва ўсіх тых выпадках, калі адчувае патрэбу нябеснае мацярынскае пацехі.

Ніжэй падаём сьпіс слаўнейшых абразоў Божае Маці, якія былі шырэй ведамы на Беларусі і па-за яе межамі да першай сусьветнай вайны. Бальшыня з іх гэта цудатворныя іконы, якія ўцалелі і да сёньня, але пакуль што нельга дакладна сказаць, каторыя зь іх і дзе цяпер знайходзяцца.

Балыкінская ікона ў в. Мазалеўшчына 12 км.

ад Мсьціслаўля, сьвяткавалася 30-га чэрвеня і на Дзявятуху.

Баркалабаўская ікона — 11-га ліпеня.

Белацэркавецкая ў Белацэркаўскай царкве Сеньніцы Магілёўскай г.

Бялінічэўская ведамая з XIII в. 45 км. ад Магілёва. Укаранаваная*) 20-IX 1761, цяпер ікона дзесь схованая.

Віленская Адзігітрыя з 1452 г. сьвята 14-красавіка. Укаранаваная 8-IX 1750.

Віленская Вастрабрамская — сьвята 26-га сьнежня. Укаранаваная 2-VII 1927.

Віцебская з 1521 г. сьвята — 8-га ліпеня.

Гавезьнянская у м. Гавезна.

Гарадзішчанская, або Шкаплерная з 1437 г.

Дзьвінская — сьвята 8-га верасьня і 25-га лістапада.

Дудзіцкая ў м. Дудзіч раён Ігумен сьвята 1-га кастрычніка.

Жыровіцкая — цудатворная з 1191 г. сьвята 7-га травеня. Укаранаваная 19-IX 1730.

Ізяслаўская — ў Ізяслаўлі 20 км. ад Менска, сьвята 8-га верасьня.

Іосафаўская — Смаленская.

Казіміраўская м. Казіміраўка ў Успенскай царкве Менскае епарх.

Клецкая ў м. Клецк ў Васкрасенскай царкве.

Кодэская вывезеная з Рыма ў 1620 г., сьвята 8-га верасьня.

Краснатоцкая ў Краснатоках 30 км. ад Гарадні з 1445 г. сьв. 7-га X.

Крупецкая ў в. Крупцы 5 км. ад Менска ў Пакроўскай царкве.

Кунятыцкая ад 1182 г.

Марынагорская ў Марынагорскай царкве Менскай еп.

Менская да вайны знаходзілася ў катэдральным саборы, паходжаньне яе сягае апостальскіх часоў, сьвята 13-га жніўня.

Нова-Сьвержанская зьявілася каля 1500 г. і праславілася 22-III 1638 г.

---

*) Каранацыі адбываліся заўсёды з дазволу Апостальскага Пасаду ў Рыме.

Нова-Трокская ў прыхадзкой царкве Укаранаваная 4-IX 1719 г.

Оссавецкая ў прыхадзкой царкве Оссаўцы Менскай еп.

Падлесная ў Сьвятадухаўскай царкве Менскай еп.

Пружанская статуя М. Б., што плакала на Вялікдзень 1934 г.

Пустынская або Патрыяршая 8 км. ад Мсьціслава, ад XII в. была ў валоданьні Мсьціслаўскіх князёў, сьвята 15-га жніўня.

Ракаўская каля м. Ракаў Менскай еп. у Узьдзьвіжанскай царкве.

Сьвірская ў Міхайлаўскай царкве Смаленска прынёс кн. Давыд у 1195 г.

Смаленская Адзігітрыя — 28-га ліпеня.

Смаленская Яраслаўская — 12-га чэрвеня.

Строчыцкая ў м. Строчыцы каля Слуцка, сьвяты 29-VII, 15-VIII, 8-IX.

Супрасьльская Адзігітрыя знайходзіцца ў манастыры, сьв. 28-VII.

Тупічэўская або Сямігародная сьвята 15-га жніўня і Пан. Сьв. Духа.

Усьвяцкая - Цэсарска - Бароўская ў м. Усьвят паходзіць з XII в. з маясцовасьці Бор, сьвята 30-га травеня.

Фалькавецкая ў м. Фалькавічы 13 км. ад Віцебска, сьвяты 15-га і 22-га жніўня.

Пералічваючы гэтыя іконы, міжвольна зьвяртаецца ўвагу на характэрны факт, які нельга абмінуць маўчанкай, гэта, што Беларускі Народ у пашане да Божае Маці сьведама не рабіў розьніцы ці яе сьвятыя абразы знайходзіліся ў лацінскіх ці ўсходніх сьвятынях. Усюды ён бачыў сваю добрую Маці і да яе голасна маліўся:

Матачка Божая, Матачка добрая,
бедныя дзеці, мы клічам Цябе;
песьняй пакорнаю мольбы складаючы,
сэрцы свае аддаём мы Табе.
Вылеч Ты сэрца нам раны глыбокія,
міласьцяй чыстаю нас запалі,
каб хвала Божая, не жальба вечная,
ў неба ляцела, ляцела з зямлі.

# Адкуль ліха на сьвеце?

Ня раз выдатныя людзі нашае Зямлі, і філязофы і пісьменьнікі, і розныя грамадзкія дзеячы задавалі сабе гэтае пытаньне і адказвалі на яго рознымі спосабамі. Ня будзем тут разводзіцца шырока аб тым, як? калі? і хто? адказваў на вышэйпастаўленае пытаньне, але пастараемся на прыкладзе сучасных падзеяў коратка і ясна адказаць на яго з рэлігійнага пункту гледжаньня.

Калі гаворым аб ліху на сьвеце, дык разумеем у першую чаргу ўсе тыя няшчасьці, якія спрычыняюць цярпеньні паасобным людзям і цэлым грамадствам. Ёсьць розныя крыніцы гэтага няшчасьця, ці інакш кажучы, гэтага ліха, але найважнейшае з іх знайходзіцца ў самым чалавеку — у яго неапанаванай жадобе.

З волі Бога перад кожным чалавекам ёсьць

два шляхі: або жывучы чэсна і маральна асягнуць Неба, або, не зважаючы на голас сумленьня, задавальняць свае нізкія інстынкты, і трапіць да Пекла. Дзеля гэтага чалавек, адзін з усіх істотаў на зямлі, мае свабодную волю, значыць можа выбіраць, і мае жаданьне імкнуцца да шчасьця. Аднак таму, што шчасьце кожны па свойму разумее ,дык ня раз даходзіла да таго, што людзі ўважалі, быццам шчасьце знайходзіцца ў заспакаеньні сваіх нізкіх гонаў. Каб перасьцерагчы чалавека ў патураньні гэтым гонам, Бог даў прыказаньні, якія маюць на мэце, акялзаць непамяркаваныя жаданьні людзкое душы. Гэтыя Божыя прыказаньні з даўных давён ведае ўвесь хрысьціянскі сьвет пад назовам «Дзесяць Божых прыказаньняў». Яны вымагаюць упакарыць сябе перад Богам (1-3), паважаць бацькоў і старэйшых, а тым самым і Бацькаўшчыну (4), панаваць над сваею злосьцю — не забіваць (5), панаваць над сваею палкасьцю (6 і 9), ня браць чужога (7), быць праўдамоўным (8), і ўканцы выразна загадваюць: «Не прагні нічога, што не тваё» (10).

Калі аднак людзі наперакор Божай Волі, не зважаючы на гэтыя прыказаньні, давалі волю ўсім сваім нізкім жаданьням, тады сьвет перажываў цяжкія няшчасьці.

Сёньня амаль аднагодна ўсе прызнаюць, што час дзьвёх апошніх сусьветных войнаў належыць да найцяжэйшых, якія перажываў сьвет, але адначасна няўвага да названых Божых прыказаньняў дайшла да нябывалай ступені. Хоць з багасловіі і народнае мудрасьці ведама, што Бог ніколі з караю на людзей не сьпяшаецца паводля прыказкі: «Бог праўду бачыць, але ня скора скажа», аднак з царкоўнае гісторыі ведамы выпадкі, калі маральны ўзровень нейкага грамадзтва надта ўпадаў, дык Бог пасылаў на гэтыя грамадзтвы кару ўжо тут на зямлі. Успомніць толькі сусьветны патоп, спаленьне агнём Садомы і Гаморы. Не шкадаваў Бог такжа і выбранага народу, наадварот шмат разоў караў яго вельмі даймаючымі карамі. Дык хіба можа быць інакш цяпер? Ці-ж можа Бог дазволіць доўгатрывалае легкаважэньне сваіх прыказаньняў і насьмешку над Яго сьвятою воляю? Тое кашмарнае жыцьцё, чаканьне жудаснага заўтра распасьціраецца па сьвеце быццам няпрыметная зараза. Але ці-ж гэта ня йдзе ў пары з рэлігійным кашмарам? На прыкладзе нашае бацькаўшчыны бачым, што горшае насьмешкі над Божымі прыказаньнямі, як гэта праявілі нашы суседзі ў адносінах да Беларусі і падумаць цяжка. Расейскія праваслаўныя дзеячы, паўтараючы штодня «Не пожэлай дому бліжнего твоего, ні села его, ні раба его... ні всего еліка суць бліжнего твоего», адначасна жыўцом стараліся праглынуць нас і дзясяткі іншых народаў. З другога боку прававерныя польскія каталіцкія дзеячы, паўтараючы тое-ж прыказаньне: «Ня прагні нічога, што не тваё», сіламоць загарталі нашы землі, падобна як і ўкраінскія і ўсякімі спосабамі стараліся іх прысабечыць. Адны і другія па сёньняшні дзень ня могуць вызбыцца сваіх ненасытных жаданьняў і шлюць да Бога шчырыя малітвы, каб нас зьесьці жыўцом. Ці можна падумаць горшую насьмешку над міласэрным Богам, які кажа любіць свайго бліжняга, як самога сябе, каб у гэтага Бога прасіць крыўды слабейшых?

Бальшыня гэных дзеячоў страцілі нават сваю родную бацькаўшчыну і апынуліся на чужыне. Эміграцыйнае жыцьцё павінна было-б ацьверазіць іх, дык не, і сёньня нашы ўсходнія суседзі лятуцяць аб той «недзялімай», што прасьцягалася аж да Пазнаня, а заходнія мрояць катэгорыямі «ад мора да мора». У некаторых ужо гэтыя апэтыты трохі зьменшыліся, але усё-ж яны яшчэ даволі значныя.

Глыбей задумаўшыся над гэтым міжвольна напрошваецца думка што добры Бог паслаў на непаслушныя народы бязбожны біч, каб абразуміць хрысьціян. І відаць так доўга будзе карыстацца гэтым бічом, пакуль людзі не навучацца ня толькі гаварыць прыгожа пра Яго евангельскія праўды, паўтараць словы Яго прыказаньняў, але адначасна выконваць іх на дзеле і сьвята шанаваць гэтыя прыказаньні.

Таму трэба з радасьцю прывітаць той рух, які запачаткаваўся нядаўна ў Францыі і Нямеччыне пад клічом «Мір Хрыста ў царстве Хрыста», арганізуючы апостальства малітвы за народы, пад высокаю пратэкцыяю яго Эмінэнцыі Кардынала Саліежа. Да гэтага руху далучаюцца некаторыя цэлыя францускія парахвіі, далучаюцца да яго і беларусы добрае волі, заклікаем да яго і нашых суседзяў, бо ніякая дыплямацыя і ніякія хітрыкі не паміраць сьвету, калі не памірыць яго Хрыстос.

# У ВЫРАІ

Здарылася вольная хвіліна і адначасна апанаваў нейкі задуменны настрой. Недзе заскрыгатала аўта ладчас гамаваньня свайго бегу, і вось ўява чамусьці ператварыла гэты тук у кліч жураўлёў, што недзе якраз у гэтым часе пакідыюць нашу бацькаўшчыну, каб адляцець перад маразамі ў цяплейшыя краіны. Ці яны сумуюць так, як я па бацькаўшчыне?.. Ніхто на гэта не адкажа,

але пэўна, што яны гнёздаў у чужых краінах рабіць ня будуць і пэўна, што для іх настане вясна, што прыйдзе час павароту, і яны зноў тым самым шляхам і стройным парадкам вернуцца на бацькаўшчыну. Стройным парадкам... а мы!? Лепш не адказваць. Але ці-ж гэтым, што я сам перад сабою стараюся ня думаць аб нашым сумным сёньня, дык ужо зьмяншаю непацешнае палажэньне? Наадварот! Трэба адказаць, абавязкава трэба адказаць, на гэтае пытаньне. Але дзе шукаць адказу? Перабіраю у думцы розныя тэорыі, розныя навукі, розныя высказы і чамусьці за ніводзін не чапаецца думка. Адно пэўна, што я, падобна, як тысячы іншых, адарваны ад родных карэньняў. Ня зусім яны вырваны, бо нейкія карані асталіся і лучаць думкамі з усім родным, але нейкія вырваныя і нейкая пустка стварылася ў грудзіне, нешта ные каля сэрца. У вольных хвілінах вельмі даймаюча адчуваецца гэтая паражнеча. Раней на бацькаўшчыне ня шмат трэба было думаць, каб наметіць нейкі плян свайго жыцьця, хоць часам і цяжка даводзілася старацца, каб яго ажыцьцявіць. Усе сілы йшлі ў намечаным напрамку. Калі часам нешта ня было зусім так, як здавалася, дык хутка можна было дапоўніць недагляды і нястачы. А тут...? Тут няведама, што будзе заўтра. Быццам чорная сьцяна стаіць перад намі ў беспасрэднай блізіні і не дае магчымасьці глянуць нават на крок прад сабою, нават у найбліжэйшую будучыню. Адчуваецца толькі адно, што мы зданы на сілы незалежныя ад нас. На кожным кроку адчуваецца залежнасьць ад некага і ад нечага. Ды каб гэта толькі адчувалі мы, дапусьцім што мы слабыя, але вось бачым самых магутных у гэткай самай залежнасьці.

Недзе недалёка пачынае званіць звон. Яго раўнамернае і манатоннае бом, бом, заўсёды адзываецца ў гэтай самай гадзіне. Я прывык да гэтага і звычайна не зьвяртаю ўвагі, але цяпер думка міжвольна хапаецца за гэтыя гукі. Гэта-ж так-жа вястун. А можа там?.. Што там можа быць за разьвязка, калі гэта ўсё старое, нямоднае... Аднак абразы з гэтага мінулага адзін за другім усплываюць у няяснай памяці. Далёкая Палестына — там калісь Іван Хрысьціцель; — так, быў-жа такі чалавек — ён кінуў усё, пайшоў у пустыню і там зачаў навучаць. Там Хрыстос, перш чым зачаў выконваць сваё пасланства, 40 дзён і начэй пасьціў шчырым постам у пустынным мейсцы, воддаль ад усяго роднага, а ўканцы мусіў перамагчы розныя спакусы. Там апостал Паўло навярнуўшыся аж тры гады быў у Аравійскай пустыні, перш чым прыступіў да выканаьня свайго пакліканьня. Ці-ж гэта ня вырай, хоць іншага роду? Усё гэта чамусь успамінаецца і напрошваецца шукаць падабенства.

Хто пакліканы да нечага важнейшага, мусіць прайсьці час пробы пакінуты сам сабе, каб чэсна здаць сабе справу з свае маленькасьці і велічы тае справы, да якое пакліканы. А помач? Яе дасьць Той, хто паклікаў. Хто ня вытрывае, дык адпадзе. Да абяцанае зямлі жыды йшлі 40 гадоў і ў час падарожжа загінулі ўсе тыя, што зьняверыліся і што шкадавалі за ягіпецкаю цыбуляю з часу няволі; дайшлі толькі тыя малодшыя, якія не сумняваліся ў Божую помач. Куды заімчалася думка. Няўжо акрамя гэтае «струхлелае» царкоўнае гісторыі і гэтага «нуднага Госпадзі, памілуй» нельга знайсьці нічога лепшага? Але чаму-ж хоцьбы у тых недасяжных Божых тайніцах не шукаць развязкі і разгадкі нашага выгнаньня? Крыжуюцца пытаньні. Ня самі-ж мы, не з ахвотаю пакідалі бацькаўшчыну. Нехта мацнейшы казаў нам выляцець на вырай. Магчыма на бацькаўшчыне шмат хто быў за многа прырослы да зямлі, каб мог узняцца ўвысь і падумаць аб Небе да якога мы прызначаны. А цяпер мы падобна да тых жураўлёў, што лятучы ў вырай, узьнімаюцца аж пад хмары, можам узьняцца ўвысь сваімі думкамі да Валадара сусьвету і там знайсьці жыватворчую крыніцу, якая напоўніць крышталльна - чыстаю адвечнаю праўдаю тую пустку ў грудзёх. А з ёю суму ня будзе.

І жывей пачынае біцца сэрца; вышэй узьнімаецца галава: думаю, што і вочы пачынаюць сьвяціць ясьней, бо стала ясьней у маім пакоіку. Я знайшоў нешта, тое нясьведама шуканае.

Не, я ня ўседжу спакойна цяпер! Зрываюся з мейсца ды хутка йду туды, адкуль даносіўся звон Божага вястуна і нават ня чую, як моцна стукаюць мае чаравікі па ходніку. Але пусткі ўжо ў душы няма, бо я моцна пераканаы, што прыйдзе Вясна. Так яна напэўна прыйдзе, бо яна заўсёды паслушная Божым адвечным загадам, толькі трэба, каб да гэтага часу мы навучыліся быць падобна паслушнымі і навучыліся ня поўзаць па балоце, але лётаць бліжэй да Усявышняга.

**Тамаш Малько.**

# Думкі вялікіх людзей аб малітве

Палітыкі і дыпляматы ў сваіх кабінэтах складаюць розныя пляны палітычнае дзейнасьці, але як-жа часта крыжуюцца гэтыя пляны, хоць здавалася-б так добра і ўсебакова былі абмеркаваны. Хто іх крыжуе? У чыіх руках спачывае доля сьвету, калі земскія валадары, маючы да распараджаньня ўсю людзкую магутнасьць, ня ў сілах ажыцьцявіць сваіх намераў? Што гэта за такія:

«шчасьце» і «удача», якімі часам пробуюць выпраўдаць свае няўдачы? Вось-жа Бог на ўсім сьвеце зьяўляецца поўным Валадаром, і ціхая малітва пабожнае душы часта можа мець большы ўплыў на сусьветныя падзеі, як ўсе меркаваньні палітыкаў, больш як самае дзейнае аружжа.

Найвялікшы расейскі гэнэрал А. В. Суворов (1729-1800) аб сваіх перамогах гаварыў: «Маліся Богу, ад Яго перамога». «Прэсьвятая Багародзіцэ, спасі нас!»

Франклін Бэнжамін (1706-1790) выдатны амэрыканскі фізык і грамадзкі дзеяч, калі быў выбраны прэзыдэнтам аднаго са Штатаў, завёў звычай маліцца перад кожным паседжаньнем сэнату. Калі-ж у 1878 г. была нарада над доляю З.Ш.П.А. ён так азваўся: «Грамадзяне малемся! Я дажыў да старасьці, але чым даўжэй жыву, тым лепш бачу, што Бог кіруе доляю людзкасьці. Верабей ня можа загінуць без Яго волі, дык і дзяржава ня можа паўстаць без Яго помачы».

Нямецкі маршал і пазьнейшы прэзыдэнт Павал Гіндэнбург (1847-1935) падчас аднае парады на яго чэсьць у Бэрліне сьцьвердзіў факт, што: «На фроньце адчуваем, калі бацькаўшчына менш моліцца».

Але найбольш цікавая заява, што да малітвы паходзіць із вуснаў вялікага францускага маршала з першае сусьветнае вайны Людовіка Ліотэй (1854-1934). Ён адведваючы падчас вайны навіцыят манахаў у Сіоне, выслухаўшы іх сьпеў, падзякаваў, і потым дадаў: «Глядзіце на мяне і кажаце сабе: вось гэта Ліотэй маршал Францыі. Чалавек, што ўсё сваё жыцьцё правёў на вялікіх дарогах, каторы бачыў увесь сьвет, каторы ўсюды выдаваў загады як правадыр. І можа думаеце: Чым-жа ёсьць наша жыцьцё ў прыраўнаньні да яго жыцьця! Ці-ж можна вытрываць заўсёды ў запярці ў манастыры і толькі шаптаць малітву, калі сьвет такі шырокі, такі прыгожы і так шмат можна зрабіць! Так знаем Індакітай, Марокко... усё гэта чудова і ашаламляюча.

Але аднак я, Ліотэй, кажу вам, маладыя манахі; ваша жыцьцё, ваша правіла, ваша малітва, вашы ахвяры ёсьць гэтак-жа патрэбныя, гэтак-жа неабходныя і плодныя, гэтак-жа вялікія, як найбольшыя ўчынкі на зямлі. Бо канечна патрэбная раўнавага, канечна патрэбны парадак. Побач чыну ёсьць разважаньне, побач вонкавага высілку ёсьць нутраное жыцьцё. Побач змаганьня з стыхіямі і людзьмі ёсьць змаганьне з самым сабою. Жыцьцё было-б хаотычным шаленствам, калі-б ім ня кіраваў дух. Бяз людзей такіх, як вы, гэткі чалавек, якім ёсьць я, быў-бы нічым.

Вось-жа ці вы, маладыя кандыдаты на манахаў, здаеце сабе справу з ролі, якую выконваеце на зямлі? У хвілінах знуджэньня і зьнеахвочаньня — усе маюць гэткія хвіліны ці думаеце я іх ня маю — можа пытаеце сябе: ці мы ня ўчынілі шаленства замыкаючыся ў гэтых мурох? Ці здаеце сабе справу, да якое ступені вы ёсьць карысныя, неадклічныя і займаеце ў парадку сьвету аснаўное мейсца».

Тое самае, але ў кароткіх словах кажа арабская мудрасьць: «Сьвет утрымоўваецца ў раўнавазе чатырма рэчамі: навукаю мудраца, справядлівасьцю моцнага, мужнасьцю ваяўнічага і малітваю чэснага».

Пры гэтай нагодзе вельмі на месцы будзе заўвага, што навуковыя досьледы апошніх часоў ужо не адкідаюць малітвы, але паводле ўсіх навуковых даных даводзяць яе вялікую сілу. Праф. Каццамалі з Мілану і др. Кільнэр выказалі, што сіла думкі ёсьць энэргіяю з аграмадным напружаньнем, што дзея ў прасторы. Таму плянавае награмаджаньне найчысьцейшае думкі, узьнятае ў малітве да Бога і авеянае надпрыроднаю сілаю ласкі мае аграмадную вартасьць у індывідуальным і грамадзкім жыцьці. «Хто-ж дасьлядзіць, кажа А. де Мун, як важным чыньнікам у гісторыі культуры людзтва ёсьць ціхая скупленая малітва? І як вельмі можа заважыць на вазе долі не аднаго народу гэты ўкрыты скарб благаньня і ахвяры».

Малітва гэта не якаясь звычайная энэргія, але надзвычайная, бо надпрыродная сіла, якая лучыць чалавека ўпрост з Богам, таму яе дзеяньне мае шмат боскае моцы.

**Уладзімер Дудзіцкі**

# Сон Зьнябыціча

Чалавек пакінуў усё. Узяў толькі, як гаварылі суседзі, невялікі акраец хлеба, слоік мёду ад пчолаў свае гадоўлі і пляшку бярозавага соку, каб смагу было чым прагнаць у дарозе.

Узяў і пайшоў...

Чужыя людзі, грабуючы дабро хаты, знайшлі ў скрутку бяросты сьпісаны аркуш паперы. Пісьмо было чыстым, ураўнаважаным; літары буйныя, выразныя. Глядзіш і думаеш: пісаў чалавек стараючыся, нібы вякам пакідаючы словы свае душы. І палажыў-жа не абы-дзе, а за абразамі працы славутых мастакоў Бацькаўшчыны: за абразом суцэльнае фігуры Хрыста з паднятай для багаслаўленьня правай рукой і круглай зе-

**ленавата - блакітнай дзяржавай — зямной куляй — у левай, і за абразом кампазыцыі на тэму змаганьня арх.** Міхала з д'яблам...

Уверсе на тым аркушы было напісана: «Сон Зьнябыціча».

1.

...Прадзед Лукаш узяў мяне за руку і падвёў да вакна.

— Бойся Бога, праўнук, і не гняві мае крыві! — глуха сказаў ён, паказваючы на вялікі квяцісты сад. — Хто дазволіў гэтым людзям глуміцца над сьвятымі дарамі? Хіба-ж не абліваецца крывёю сэрца тваё, следзячы, як валяцца пад сякерай на грэшную зямлю поўныя жыцьця і соку моцныя, маладыя дрэвы? Кайся, мой праўнук!

Прадзед перадаў у мае рукі невялікі абраз Хрыста і загадаў перад ім укленчыць.

— Маліся! Душа твая знойдзе мяне ў пушчы, калі цела будзе вартым літасьці — сказаў і зьнік.

Малітва запоўніла і апанавала ўсю маю істоту. Я ня бачыў і не адчуваў нават свайго глыбокага дыханьня. Ня істота, а душа, здавалася, ахінала маю істоту, гэтакая незямная чулася лёгкасьць. От-от узмахне нябачанымі крыламі цела, страціўшы звыклую вагу і панясе душу ў празрысты блакіт, туды, дзе ў векавечнай згодзе і паслухмянасьці, аддаўшы сябе няўяўнай сіле сьвету, нячутна і таямніча абходзяць свае арбіты мільярды вялічэзных, пазнаных непазнаных яшчэ розумам чалавека, нябесных целаў.

Яшчэ адна малітва, яшчэ... і душа мая ў густой вільготнасьці воблакаў... Іхныя драбнюткія кроплі абдалі мяне халоднай пякучасьцю, цела ўтраціла раўнавагу, і, з шумам праразаючы паветра, лячу, здалося, у нейкую прорву... Перад вачамі загойдаліся ружовыя пухіры і зьніклі. Прастору запоўніла цьмяна-шэрая смуга балот, потым глуха зашумела пушча. Адчынілася нейкае дзівоснае царства... Пачалі выступаць нячутыя і нябачаныя дагэтуль вяліканы-дрэвы, нейкія безгаловыя галабокія людзі, даўгахвостыя чырвонакрылыя дзюбастыя птушкі і чорныя, сьмяротныя дзіды. Раптоўна ўсё гэта зблізілася і страціла свае першапачаткавыя формы.

Ізноў цемра і пусьціня.

Іду ў невядомым кірунку. Іду вобмацкам. Цела адчула пякельную гарачыню: зь зямлі вырасьлі напаленыя дачырвана зялезныя слупы, а вакол — слупоў — залатая сьцежка-апаяска...

2.

Іду апранутым у мантыю славы. Іду не адзін: павольнай сьвяшчэннай хадою вядуць мяне па залатой апаясцы сівабародыя, удумлівыя апосталы. Апаяска падымаецца ўгору і ператвараецца ў залаты абруч на высокай і стромай гары. Па-над гарою, як рукою падаць, — агністае сонца. Вось яно зь лёгкасьцю птушынкі спадае проста на мае далоні, і я прачытаў на срэбнай ліштве, выбіты чорнымі літарамі, такі надпіс:

Хто з паўсотні разоў обнясе мяне, ідучы краем залатога абруча, навокал гары, пераадолее равучыя падуны скалістых лёхаў і не ўпадзе ў зманлівы вір бяздоннага мора ў нізе гары, той здабудзе вечную славу, і ніколі не зазнаюць гора і няшчасьця ягоныя нашчадкі. А хто сацьмее ад нуды і страху, ня выканаўшы ўмовы, упадзе ў страшэнную няласку, і ягоныя нашчадкі ніколі не пабачаць сонца...

Апошніх слоў прачытаць ня мог, бо сонца асьляпіла вочы. Павярнуў убок галаву і вочы міжвольна зірнулі на пеністыя хвалі віру, вушы пачулі такое:

**«Сьмерцяй жыцьця не паправіш, а сьмерці ня мінеш».**

Апосталаў ужо ня было. Адольваючы падуны, сам набліжаўся да апошняга круга... Густыя хвалі ветру пачалі згінаць галаву. Моцна захістаўся залаты абруч. Шукаючы ратунку, рукі хапаліся за гострыя выступы скалаў. Задрыжэлі сьціснутыя жахам грудзі, з вачэй выкаціліся буйныя гарачыя сьлёзы. Замест сонца на далоні левае рукі забілася нейчае акрываўленае сэрца і пасьля трох моцных удараў пульсу прамовіла: «Ня губі мяне. Зьнябыціч!.. Я вырвана з тваіх грудзей... Бачыш родную кроў? Я-ж так хочу жыць... Не давайся ў рукі сьмерці!..»

Перамагаючы сілу густога ветру і зьмярцьвелы стан цела, узьняў я галаву да блакітнага неба і моцна-моцна ад жаху крыкнуў: «Ратуй, Божа, душу грэшнага Зьнябыціча!»

3.

У глыбіні старадаўнаў пушчы, каля вывернутага навальніцаю магутнага дуба, пластам ляжаў чалавек. Ягоную галаву ахінала махрастае карэньне скалечанага дрэва. Зь вялікага насыпу тырчэў, глыбока ўбіты асінавы кол, густа акручаны іржавым калючым дротам. На зямлі каля самага кала, ляжала ўмітуські трынаццаць вехцяў чартапалоху...

Прачнуўшыся, у цяжкіх, перадсьмяротных сударгах чалавек ледзь-ледзь выказаў апошнія думкі:

— Гэта-ж помнік злой сіле... нячыстага духу... Бачыш... якія моцныя карані.. ня выратавалі магутнага дрэва... А можа і я не памру, чалавеча?..

— Не, памрэш... сказаў я не падумаўшы... І моцна сьціснуліся кулакі... — А хіба сьмерцяй жыцьця не паправіш, калі сьмерці ня мінеш?..

Я ўкленчыў перад целам нябожчыка.

Перада мною ізноў зьявіўся абраз Хрыста і моцная постаць прадзеда Лукаша.

— Бачу, праўнук, што сэрца тваё не апаганена і душа не прадаецца д'яблу... Сад загоіць раны і зацьвіце яшчэ! Зацьвіце! Жыві, але помні сьвятыя словы і перадай братом:

**Жыцьцё папраўляюць сьмерцяй!**

Сказаў і зьнік. Я пачуў магутныя грымоты і ўбачыў чырвоныя языкі маланкі. Гэтак пачыналася грозная навальніца. Але не яна прабудзіла мяне: я сам прачнуўся... Прачнуўся і пайшоў... І не адзін пайшоў — з братамі і сьцежкай братоў...

**
*

Унізе, пад тэкстам, была гэткая надпіска: «Запісаў пакуты свае душы па наказу прадзеда Лукаша на памяць людзям Віталі Зьнябыціч з-пад Пцічы...»

Сьнежань, 1945 г.

# ДВА СУСЕДЗІ

(Пераклад з францускага)

У суседзтве жылі два гаспадары. Кожны зь іх меў жонку, па некалькі малых дзяцей і працаваў як мог, каб забясьпечыць пражыцьцё.

Адзін з іх вельмі непакоіўся, думаючы пра сябе: «Калі я памру, або хоць зьлягу хворы, дык што тады станецца з маею жонкаю і дзяцьмі?»

Гэтая думка ніколі не пакідала яго, яна грызла яго сэрца, як чарвяк точыць овацы, у якіх ён схаваны.

І трэба-ж было, што амаль гэткая самая думка прыйшла адначасна і другому гаспадару, але ён зусім не затрымліваўся доўга над ёю «бо, казаў ён сабе, Бог, які ведае ўсе сатварэньні, і які дбае аб іх, будзе дбаць так-жа і аб маёй жонцы і дзетках».

І гэты жыў спакойна, тады, калі першы ня меў ані хвіліны супакою, ані нутраное пацехі.

Аднойчы, калі ён сумны і прыгноблены дзеля свае баязьні працаваў на полі, убачыў як некалькі птушак уляцела ў куст, выляцела павярталa адтуль, але хутка зноў вяртала туды. Падыйшоўшы да гэтага мейсца, ён убачыў 2 гнязды, адно побач другога, і ў кожным па некалькі маленькіх, яшчэ неаперaных птушанят.

Калі ён вярнуўся да свае працы, дык час ад часу ўздымаў свае вочы і прыглядаўся да птушак, што прыляталі і адляталі, прыносячы пажыву сваім маленькім.

Але вось адна з матак, вяртаючыся з поўным дзюбам трапіла ў кіпцюры каршуна; ён яе ўхапіў і панёс. Бедная матка дарэмна трапяталася і крычала праймаючым голасам.

Гэтая падзея яшчэ больш стурбавала і так неспакойную душу працуючага. Ён думаў цяпер: «Сьмерць мацеры ёсьць адначасна сьмерцю дзяцей. Мае-ж ня маюць нікога апроч мяне. Што-ж зь імі станецца, як мяне ім забракуе?»

Пасля гэтага ўвесь дзень ён быў страшэнна сумны і прыгноблены, а ноччу зусім ня спаў.

Назаўтра, вярнуўшыся на поле, ён сказаў сабе: «Цікава паглядзець малых тае беднае маці. Напэўна бальшыня зь іх ужо ня жыве», і ён накіраваўся да куста.

І, паглядаючы, ён убачыў малых у зусім добрым стане; ніводнаму нічога не далягала. Зьдзіўлены, ён схаваўся і пачаў назіраць.

Незабавам ён учуў лёгкі піск і заўважыў другую матку, якая сьпешна прыносіла пажыву, якую назьбірала, і дзяліла між усімі птушанятамі бяз розьніцы. І было яе ўдостань для ўсіх, так што сіраты ня былі пакіненыя ў іх няшчасьці.

Вечарам бацька, які зьняверыўся ў Правід, расказваў свайму суседу аб тым, што ён бачыў на полі.

А той яму на гэта сказаў: «Чаго непакоішся? Бог ніколі не пакідае сваіх. Яго любоў мае таймніцы, якіх мы ня ведаем. Верма, надзеймася і любем, і йдзем спакойна нашым шляхам.

Калі я памру хутчэй за вас, вы будзеце бацькам маіх дзяцей, калі вы умрацё перш за мяне, я буду бацькам вашых.

А калі мы абодва памром перш чымся яны былі-б ў веку даць сабе раду, ім будзе бацькам Айцец, што ёсьць у небе».

**Лямэнэ.**

# Каму з гэтага карысць?

У Остэргофэнскім лягэры Д.П. для большае ўрачыстасьці Вялікодных сьвятаў Праваслаўны Царкоўны Камітэт пастанавіў запрасіць ведамага беларускага кампазытара, жыхара таго-ж лягэру Остэргофэн, зарганізаваць царкоўны хор, які-б пяяў падчас Усяночнае. Кампазытар ахвотна згадзіўся, заўважыўшы, каб камітэт паклікаў у хор асобы, маючыя ахвоту і добрыя галасы. Царкоўны Камітэт на гэта згадзіўся і хор быў зарганізаваны. Каб з чэсьцю выканаць свой абавязак, хор адбываў пробы двойчы штодня. Жыхары лягэру з радасьцю і нецярпеньнем чакалі Сьвята, таму на ўсяночную пасьпяшылі ў царкву ўсе, хто толькі мог. Некаторыя ўжо раней падслухоўвалі пробы хору і апавядалі іншым, што ніколі ня чулі такога прыгожага пяяньня.

Дарма аднак усе з напружаньнем чакалі ў царкве выступу хору. Псаломшчык і царкоўны стараста ў апошнюю хвіліну не дазволілі хору пяяць у царкве. Чаму? І да сёньняшняга дня гэтага ня ведае ніхто, за выняткам хіба таго, хто загадаў псаломшчыку і старасьце так зрабіць. Нават наш сьвятар а. Іван гэтага ня знае. На запытаньні ў вышэйназваных асобаў, былі розныя адказы. Адзін казаў: «Дзеля таго, што між харыстымі былі дзьве каталічкі», другі: «Дзеля таго, што ў хоры былі крывічы», а трэйцы казаў: «Праўдападобна дзеля таго, што кампазытар мае каталіцкую марку». Трэба зазначыць, што гэтым фактам ўсе праваслаўныя вернікі нашага і суседніх лягэраў пачуліся вельмі пакрыўджаныя і абураныя на сьвятара, тымбольш, што ў гэтай падзеі дабачваюць руку недаверкаў. Гэта тымбольш дзіўна, як за імі маглі пайсьці псаломшчык і царкоўны стараста і чаму сьвятар дазволіў да гэтага дапусьціць?

Вернікі на гэты факт зарэагавалі пасвойму: на вялікодную вячэрню зусім не пайшлі ў царкву. Выходзіць, што бязбожнікі сваю мэту асягнулі. Дык каму з гэтага і якая карысць?

**Остэргофэнцы.**

# Цьвярозы голас

Адна з расейскіх парыскіх газэтаў «Русская мысль» у Нр. 10 з г. г. зьмясьціла артыкул «Гуманизм и христианство». Аўтар артыкулу выразна падчырківае сваё праваслаўнае веравызнаваньне. Ён на пачатку пералічае некалькі «новых галасоў», што пачынаюць адзывацца ў абароне хрысьціянскіх вечных вартасьцяў, а ў канцы падае справаздачу з мітынга, які адбыўся пад клічам: «Камунізм, або хрысьціянства», на якім каталіцкі сьвятар а. Фільлер, пасьля свайго дакладу, так рачова адказваў на закіды камуністаў і камунізуючага пратэстанскага пастара, што выклікаў аграмадны ўздым прысутных, якія сумесна з сьвятаром закончылі мітынг малітваю «Отчэ наш».

З асаблівым націскам аўтар артыкулу апавядае пра адказ а. Фільлера пратэстанскаму пастару. Адказваючы на закіды і жалі пратэстанта пад адрысам католікаў а. Фільлер сказаў:

— Ува ўсякім бою бывае мамэнт найвышэйшага напружаньня, калі ўсе сілы павінны дзейнічаць сумесна. Калі-б мне сп. пастар давялося прысутнічаць на сабраньні, дзе-б вы выступалі ў абароне Божае праўды супроць цёмных сілаў, якія пагражаюць Крыжу, я-б устрымаўся ад усякіх слоў, што маглі аслабіць дзеяньне вашае прамовы.

Пасьля гэтага аўтар дадае:

— Гэта можа адносіцца і да некаторых з нас. Каталіцтва — вялікая сіла. У гэтыя дні магчыма адзіная вялікая сіла, якая стаіць на варце нашых хрысьціянскіх ідэалаў. Аб гэтым нам, праваслаўным, ня сьлед забывацца.

Ад сябе дадамо, што варта было-б, каб і нашы беларускія праваслаўныя дзеячы глыбей задумаліся над сказам свайго расейскага праваслаўнага адзінаверца.

# ХРОНІКА

## ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВЫ ЗА БЕЛАРУСЬ

Паводля намечанага пляну «Тыдзень малітвы за Беларусь» усюды адбыўся на належным ўзроўні, выклікаючы ў вернікаў шчыры рэлігійны настрой. Шкада толькі, што яшчэ замала ёсьць цэнтраў, дзе Беларусы могуць злучыцца ў маліцьвенным настроі перад абліччам Усявышняга, і згуртаваныя ў адну Божую сям'ю, злажыць перад Ім свае просьбы і цярпеньні.

## ПРАВАСЛАЎНЫ ЖАНОЧЫ МАНАСТЫР У ГОРАДНІ

Дня 16-га ліпеня гэтага году памерла ігумення горадзенскага жаночага манастыра Серафіма ў веку 67 г. Горадзенскі еп. Варсофоній, характэрызуючы яе, кажа, што гэта была «мудрая ігумення і высокахрысьціянская душа!», яна «высока цаніла роднае Праваславіе... адначасна з тым не паніжала і іншаславіе-каталіцызм, маючы са ўсімі «хрысьціянскі мір».

Пры гэтай нагодзе ад таго самага еп. Варсофонія даведваемся, што ў манастыры ёсьць 70 манахінь «пераважна старых і хворых ,што жывуць у евангельскай беднаце, цярпяць нястачы ў ежы, вопратцы, апале, але шчыра ўспамагаюць патрабуючых». (ЖМП Нр. 7)

## БЕЛАРУСЫ У ПОЛЬШЧЫ

Ратуючыся ад бальшавізму, сотні тысяч беларусаў згаласіліся, як палякі на рэпатрыяцыю ў Польшчу. Паводля прыблізных аблічэньняў; у Польшчу выехала каля 300.000 беларусаў, пераважна каталікоў з Віленшчыны, Лідчыны, Ваўкавышчыны і Піншчыны. Ня мала выехала і праваслаўных, затаіўшы сваё веравызнаваньне. Польскія ўлады параскідалі беларусаў ад Шчэціна па ўсім Памор'і. Галоўную масу беларусаў накіравалі на Альштынскія багны і твані дзе да гэтае пары ня ўстоялася ніякая калянізацыя. Жыцьцёвыя абставіны перасяленцаў каля Альштыну вельмі цяжкія. Яны жывуць увесь час пад пагрозаю выдачы назад пры выяўленьні свае беларускасьці. Аднак ня гледзячы на гэта, ёсьць цэлыя вёскі, дзе гавораць выключна пабеларуску, аб чым ужо ў сваіх рэпартажах зацеміла варшаўская прэса. У самым Альштыне праваслаўныя беларусы дамагліся адчыненьня царквы, але ўлады змусілі ўвесьці ў Божую Службу польскую мову. Каб зьліквідаваць паўстаўшыя беларускія асяродкі, у Альштынскае ваяводзтва апошнім часам улады перасяляюць украінцаў, мяшаючы іх разам з беларусамі, мазурамі і палякамі.

Другім найвялікшым беларускім асяродкам калянізацыі зьяўляюцца ваколіцы Шчэціна, дзе ёсьць шмат перасяленцаў з Віленшчыны, Слонімшчыны і Ваўкавышчыны.

(«Голас Беларусоў» Нр. 3)

## АНГЛІЯ

### Купля Беларускага Дому

Для прысьпяшэньня куплі Беларускага Дому ў Лёндане, сябры ЗБВБ дабравольна аблажылі сябе зваротнаю пажычкаю ў суме ня менш 10 фунтаў. Калі гэтую пастанову ўсе сябры змогуць ажыцьцявіць, дык у хуткім часе зможам падаць радасную вестку аб куплі.

## БЭЛЬГІЯ

### Зварот да новых эмігрантаў

Ад часу да часу ў Бэльгію прыяжджаюць новыя транспарты работнікаў з Нямеччыны, між якімі ёсьць ня мала Беларусаў. Усе новапрыехаўшыя павінны ведаць, што на абшары Бэльгіі ёсьць работніцкая арганізацыя: «Сындыкат Беларускіх Работнікаў» пры ЦФТЦ. Да гэтага часу афіцыяльна зацьверджаны беларускія сэкцыі ЦФТЦ у Шарлеруа і Ліежы, таму для ўласнага дабра й карысьці запамятайце сабе іх адрасы:

F.S.C. Section Bielorussienne, Grand'rue 205 Charleroi (Nord). — F.S.C. Section Bielorussienne, 29, rue St. Gilles, Liege (Centre).

## КАНАДА

### Беларусы арганізуюцца

У зьвязку з прыездам новых беларускіх эмігрантаў больш актыўная і сьведамая частка эміграцыі ў Канадзе пастанавіла ўтварыць сваю нацыянальную арганізацыю. Таму што справаю заняўся ведамы з свае актыўнасьці чалавек, можна спадзявацца, што намечаную мэту хутка ўдасца ажыцьцявіць. Да гэтага часу на абшары Канады былі беларускія згуртаваньні толькі з назову, падданыя чужацкім уплывам.

## НЯМЕЧЧЫНА

### Беларускія часапісы

Пасьля доўгага стараньня і чаканьня беларусы ў Амэрыканскай зоне Нямеччыны атрымалі дазвол на друк тыднёвай газэты «Бацькаўшчына» і месячніка «Сакавік».

З радасьцю вітаем беларускае друкаванае слова на эміграцыі ў роднай мове, бо ўжо здаўна адчуваецца ўсюды вялікі голад на яго.

### Прызнаньне Беларускага Скаўтынгу

Галоўная Кватэра Згуртаваньня Беларускіх Скаўтаў на чужыне (ЗБСЧ) атрымала ад Міжнароднага Скаўцкага Бюра ў Лёндане афіцыяльнае пісьмо ў справе прызнаньня Беларускае Скаўцкае арганізацыі ў Нямеччыне і прыняцьця яе пад сваю пратэкцыю. Гэта бясспрэчна вельмі важны мамэнт у гісторыі Беларускага Скаўтынгу. (СІС).

### Лічбовы стан Беларускага Скаўтынгу

Паводля афіцыяльных дадзеных «Скаўцкае Інфармацыйнае Службы» Згуртаваньне Беларускіх Скаўтаў на Чужыне ў 1947 г. налічвае:

| | |
|---|---|
| агулам хлапцоў і дзяўчат | 945 |
| сьцягаў | 10 |
| зьвязаў | 30 |
| сталых скаўтаў (скаўтэраў) | 75 |
| малодшых кіраўнікоў | 80 |

**Мэмарыял аб утварэньні новых лягэраў**

Беларускі Дапамаговы Камітэт Брытанскае Зоны падаў уладам мэмарыял з просьбаю аб утварэньні асобных беларускіх лягэраў у правінцыях Шлезвіг-Гольштайн, Вэстфаліі і Гановэр, дзе да гэтага часу беларусы жывуць у чужых лягэрах.

(«Голас Беларусоў»)

**Пад нашым імем**

Дэлегат польскіх прафсаюзаў у Шлезвіг-Гольштайне п. Стшэмпскі пры аб'езьдзе лягэраў, на сходках паддаваў думку палякам, каб усе хто можа з палякаў запісваліся пры эміграцыі беларусамі і украінцамі і такім чынам працісколіся на выезд, бо палякоў у Англію, Канаду ў Аўстралію ня хочуць браць. Шмат палякоў гэткім спосабам, быццам, ужо выслана.

(«Голас Беларусоў»)

**Беларускае Настаўніцкае Згуртаваньне**

Паўстаўшае ў Амэрыканскай зоне Беларускае Настаўніцкае Згуртаваньне, памысна разьвіваецца, ахопліваючы новых сяброў і творачы новыя аддзелы. Дня 15-га верасьня г.г. заснаваўся аддзел БНЗ у лягэры Шляйсгайм.

(«Студэнцкі кліч»)

## ФРАНЦЫЯ

**Зьмена адрысу**

У зьвязку з зьменаю адрысу Сындыкату Беларускіх Рабочых, просіцца рэдакцыі ўсіх часапісаў, якія падавалі папярэдні адрыс гэтае ўстановы, падаць да ведама чытачоў наступны адрыс:

**Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue Montholon. Paris (9).**

## ДА НАБЫЦЬЦЯ

У Беларускай Рэлігійнай Місіі ў Парыжы можна набыць:

1) Малітаўнік для Беларусаў «Божым шляхам» (без аправы) 30 фр.
у аправе 60 фр.

2) Песьня «Магутны Божа» з нотамі на 4 галасы 3 фр.

3) Энцыкліка Сьвяцейшага Айца Папы Пія XII з нагоды 350-ых угодкаў прыяднаньня Беларускае і Украінскае Царквы да Апостальскага Пасаду. 10 фр.

А так-жа ёсьць яшчэ ў невялікай колькасьці крыжыкі і сьвятыя абразкі. Заказы кіраваць на адрыс:

**R. Père L. Harosko, 95, rue des Sèvres, Paris (6).**

## ПОШУКІ

**Шыбайловіч Мікола** шукае сваіх родных: **Немковіч** Насьцю, Пятру, Федара, Паўла і **Шыбайло** Любу, Ліду і Валю. Пісаць на адрыс:

**Szybajlovitsch Nicolans, D.P. Camp Lexenfeld 4, barak 8, zim. 8. Salzburg. Austria.**

**Крэменецкага** Івана ç. Пятра з вёскі Лазовічы, пав. Валожын, шукае яго знаёмы Зяленскі Пятро.

**Карачуна** Мікалая нар. 1925 г. шукаюць бацькі.

**Гапоніка** Сьцяпана нар. 1907 г. шукае Падгайскі Янка.

**Моніча** Рыгора вывезенага на работу ў Нямеччыну ў 1943 г. шукае жонка.

**Шылевіча** Лаўрына шукае Шылевіч Уладзімір.

**Пэндо** Аляксандра і Мірона, **Рокача** Міраслава шукае М. Пэндо.

**Вараб'я** Паўла, **Бакача, Матача, Раманко, Дурылу, Юшкевіча Юнаха** з Новай Мышы і Палонкі шукае М. Варабей.

Пісаць на адрыс радакцыі.

## УВАГА — ЧЫТАЧЫ!

Гэты нумар нашага часапісу, падобна як і папярэдні высылаецца гратісова. Для атрыманьня наступных нумароў **неабходна урэгуляваць** справу падпіскі. Дзеля гэтага падпішчыкаў з Францыі і Амэрыкі просімо зьвяртацца беспасрэдна на адрыс радакцыі:

у Англіі на адрыс:

**The Rev. dr. Ceslaû Sipovic, 21, The Oval, Hackney Rd. LONDON, E 2.**

у Нямеччына на адрыс:

**Hochw. Dechant Michael Moskalik, Goslar-Harz, Sommer wohlenstr. 1. A. Brit. Zone.**

## ЗЬМЕСТ




**Directeur : Abbé L. Horosco.**

Impr. de Navarre; 11, rue des Cordelières, Paris.